# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

ОРГАН ЦКЛКСМБ

Пяць год таму назад у нас на Беларусі гаспадарыў агідны белы арол з яго прыслужнікамі—катамі жандарамі.

Сёньня поўнаўладным гаспадаром у нас Вольны Ўсебеларускі Зьезд Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў.



Прэзыдыум VII Ўсебеларускага Зьезду Саветаў.

№ 7. 1925.

# С.-Г. ПАДАТАК НА 1925-26 г.

**Растлумачыць сялянству аб зьменах у законе на падатак 1925-26 г., дапамагчы атрымаць гаспадарцы, у выпадку якой-небудзь бяды, ільготу—адна з найгалоўнейшых і сьпешных прац комсамольскіх ячэек і ўсяе вясковае моладзі.**

### Новае ў падатку на 1925-26 г.

Трэцяя сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту Саюзу Савецкіх Рэспублік, якая адбылася ў сакавіку м-цы г. г. ў гор. Тыфлісе, прыняла шмат пастаноў у бок зьмяншэньня адзінага с.-г. падатку. На падставе гэтых пастаноў Цэнтральны Комітэт СССР выпрацаваў новы закон аб падатку і 7 мая выпусьціў яго ў сьвет.

У законе зазначаецца, што с.-г. падатак на 1924-25 год браўся з сялян у ліку 400 мільёнаў руб. Цэнтральны Выканаўчы Комітэт парашыў зьменшыць гэты лік на 1925-26 год да 280 міл. рублёў.

Такім чынам сялянская плата дзяржаве паменшала на 30%, што складае 120 міл. рублёў. Гэта вельмі вялікія грошы для любой дзяржавы, а тым больш для нашай разбуранай краіны.

### Колькі плаціць вёска, колькі горад.

Яшчэ тры гады таму назад сялянскі падатак зьяўляўся галоўным даходам нашай краіны, але што далей, тым больш сродкаў дае ня вёска, а горад.

У нас у 1924-25 г. сто трынаццаць мільёнаў вясковага насельніцтва плаціла 520 мільёнаў руб. (с.-г. падатку і ксьвеныя—падатак з тавараў), а дваццаць адзін мільён гарадзкога насяленьня дало дзяржаве 885 мільёнаў руб. падатку.

Як бачым, у сярэднім на адну вясковую душу прыходзіцца падатку ў дзесяць раз менш, чым на гарадзкую.

Але Комуністычная партыя не здавальняецца й гэтым. Яна ставіць сабе задачаю аслабаніць ад падатку ўсю беднату, мала браць з серадняка і багата абкладаць заможную гаспадарку.

### Зьмяншэньне падатку на жывёлу.

Цэнтральны Выканаўчы Комітэт пастанавіў: „Прымаючы пад увагу, што цяжкасьць падатку, якая клалася на жывёлу ў некаторых раёнах, дапамагала аслабленьню гадоўлі жывёлы—перагледзець нормы пераводу жывёлы на пашню і зьменшыць іх па саюзу да 1/3“. Гэта рашэньне выконваецца новым законам аб падатку. Для Беларусі, напрыклад, сярэдні перавод жывёлы ў пашню паніжан ад 3/4 дзес. да 0,4 дзес., што складае палавіну леташняга.

### Разрады для выплаты падатку па акругах.

Прымаючы пад увагу эканомічны стан (багацьце іх) акруг, Цэнтральны Выканаўчы Комітэт і Савет Народных Камісараў БССР прысвоіў кожнай акрузе ніжэй зьмешчаныя разрады для выплаты падатку:

| | |
|---|---|
| Бабруйскай | 5-ы |
| Барысаўскай | 4-ы |
| Віцебшчыне | 5-ы |
| Калінінскай | 4-ы |
| Менскай | 6-ы |
| Магілеўскай | 5-ы |
| Мазырскай | 4-ы |
| Аршанскай | 5-ы |
| Полацкай | 4-ы |
| Слуцкай | 6-ы |

Для ўсяе Беларусі ЦВК і СНК Саюзу прысвоіў 5-ы разрад, што па прынятай табліцы ставак складзе падатак у 8.200.000 руб., замест леташняга—14.300.000 руб.

**Табліца ставак,**

прынятая ЦВК і СНК БССР на аблагаемую адзінку.

| Разрады па аблаж. | 1 да 1/2 абклад. дзес. на едака. | 2 да 1 1/2 дзес. на едака. | 3 звыш 1 1/2 дзесяціны. |
|---|---|---|---|
| I | 30 к. | 1 р. 95 к. | 4 р. 90 к. |
| II | 35 „ | 2 „ 20 „ | 5 „ 45 „ |
| III | 40 „ | 2 „ 45 „ | 6 „ 10 „ |
| IV | 45 „ | 2 „ 70 „ | 6 „ 75 „ |
| V | 50 „ | 3 „ — | 7 „ 50 „ |
| VI | 55 „ | 3 „ 30 „ | 8 „ 25 „ |

### 40% - для раённых бюджэтаў.

У 1924-25 г. да сельгаспадатку на мясцовыя патрэбы была ўстаноўлена надбаўка ў разьмеры 36 проц.

У 1925-26 г.—ніякіх надбавак. Але гэта ня значыць, што на месныя патрэбы ня будзе адпушчана грошай. У гэтым годзе кожны раён атрымае 40 процантаў тае сумы, якую ён плаціць.

Па саюзу для раённых бюджэтаў будзе раздадзена 100 м. р.

### Ільготы па сельгаспадатку.

Закон аб с.-г. падатку на 1925-26 г. захоўвае для тых гаспадарак, якія ня маюць жывёлы, леташнія ільготы, а іменна: усе гаспадаркі, маючыя на едака ня больш 1/3 дзесяціны і якія ня маюць абкладаемай жывёлы—вызваляюцца ад падатку поўнасьцю, а калі яны маюць 1 галаву абкл. жывёлы, але ня маюць рабочай скаціны—аслабаняюцца напалову.

Такая палёгка абхопіць на Беларусі 43.000 сялянскіх гаспадарак.

Карыстаецца палёгкаю і тая вёска, якая пераходзіць на новы шлях земляапрацоўкі. Аб іх у законе гаворыцца: „Гаспадаркі працоўных карыстацеляў, якія пераходзяць на пасёлкі, шматпольле, і ў зьвязку з землябудаўніцтвам будуюцца на новых мясьцінах—на працягу аднаго году ня плацяць падатку“.

Савецкая ўлада разумее, што з прызывам узрослага члена сям'і на вайсковую службу гаспадарка прыходзіць у заняпад, а таму такім гаспадаркам даюцца наступныя вялікія палёгкі:

Кожны чырвонаармеец залічваецца за аднаго, камандны склад—за двух, а малодшы камандны склад зьверхтэрміновай службы—за траіх едакоў кожны.

Апрача таго кожная чырвонаармейская сям'я атрымоўвае скідку з падатку ў 25 процантаў.

Такімі-ж ільготамі карыстаюцца зволеныя з вайсковай службы пасьля 1 сакавіка гэтага году, міліцыянэры, слухачы савпартшкол, рабфакаў і комуністычных унівэрсытэтаў.

**З. П-тны.**

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.

Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 7 | Ліпень 1925 г. | Менск



# 1905

*(Працяг. Гл. „М. А.“ № 6)*

Пачалося...

Губарнатар дачакаўся распараджэньня па тэлеграфу: „*Манифеста—не об'являть, арестованных—не выпускать*“. Коратка ды ясна...

А натаўп стаіць бы сьцяна.

Урачыста-жаласьліва нясуцца ў паветры словы:

„Сьлязамі заліт
мір бязбрэжны,
Уся наша жысьць
—цяжолы труд“...

І жаласьлівае мяняецца, мяняецца на пагрозу, суровую пагрозу:

„Но дзень настане неізбежны—
Неумалімы грозны суд!“..

* * *

На балькон губарнатарскага дому вышаў адзін з чыноўнікаў.

—Нарэшце!—нехта выказаў сваю думку ўслух.

А чыноўнік:

— Господа! Все, все идите на площадь Виленского вокзала... там будет... об'явлен... ваши требования... там... удовлетворены!..—і зьнік.

Натаўп рынуўсяісьці. Шэрагі калён павялічваюцца. Вырасьлі ў мора людзкіх галоў.

Натое рэ-во-лю-цы-я!!!

Вунь павярнулі аз плошчы на Цюрэмную... вунь першыя шэрагі на таўпу праходзяць ужо каля турмы.

Вакол турмы, крамя белых мураваных сьцен—жывы плот: гэта конная паліцыя сьцеражэ турму з соткамі закутых у ланцугі людзей, адданых барацьбітоў за справу рэволюцыі.

Праходзіць натаўп каля турмы, а з-за сьцен, з вокан глядзяць соткі запалых, але іскрыстых адвагай вачэй. У адказ на сьпевы натаўпу адказваюць уздымаючым пачуцьцё змагальнікаў моцным: Урааа!

Заёрзаліся коні паліцэйскіх на месцы... глыбей уеліся цуглі...

Вось-вось кінуцца гатовы на натаўп, гойсаць па людзях. Але спакойна прашло... Натаўп ішоў далей і далей, адны шэрагі зьмяняліся на другія, падобныя на першыя. Натаўп урачыста ішоў да Віленскага вакзалу, убіраючы ў сябе соткі, тысячы адзінак—рос...

—Нешта будзе!—кожны разважаў.

Але ішлі.

Вось і „плошча каля Віленскага вакзалу“. Дзесяць тысяч — адно цэлае. Зноў чакаюць... губарнатара. Мітынгуюць. Ускликі не супакойваюцца.

Чырванеюць сьцягі. Прамоўцы ўлазяць на зэдлік, кінуць натаўпу дзесяць-сто слоў і мяняюцца адзін другім.

А натаўп стаіць, а натаўп чакае...

Плі... плі... плі...

Гаах!—уздрыганула зямля.

Гаах!—адгукнулася ў паветры.




Дудары Барысаўшчыны сярод маладнякоўцаў.

Зьлева направа: рэдактар „Малад. Арат.“ Іл. Барашка, дудар Нічыпар Шыхавец, адказны сакратар Ц. Б. Маладняка Ул. Дубоўка, дудар Сымон Шыхавец, літаратурны сакратар „Маладняка“ Язэп Пушча.

— Плі!.. плі-плі!..—чутна каманда казакаў.

— Плі!—чутно было некаторым з натаўпу, блізка стаячым, а рэшта—большасьць пачула залп з пяцісот, а мо' і болей, сталёвых стрэльбін, моцна прыціснутых да плеч „вернага казацтва".

Першы залп—угару. Дымам акутала натаўп. Калі пачуліся стрэлы, калі акутаў паветра над натаўпам дым ад першага залпу, натаўп быццам адзервянеў, адзін да другога прыціснуліся ў адно цэлае і так чакалі... другога... залпу.

— Плі!—пачулася. Але ня ўгору, а ніжэй крыху—проста па натаўпу, па людзях.

Быццам сьцятыя касой пачалі класьціся на вільготную ад васеньніх дажджоў зямлю першыя дзесяткі забітых.

Пачулася жаласьлівае: „*Ра-атуйце-е*!

А каля ўсходаў у памяшканьне вакзалу не змаўкае:

„У бой мы ў апошні ўступаем з ўрагамі,
Нас яшчэ судзьбы бязьвесныя ждуць".

І ў адказ на залпы адказваюць біцьцём каменьнямі шыб у вокнах вакзалу.

А „вернае казацтва" наступае бязупынна, крок за крокам адыходзіць натаўп, памяншаецца ў ліку, зьнікае з плошчы, пакідаючы ахвяры..

Вось ужо казакі ідуць па людзях, па стогнучай зямлі...

Стрэлы не змаўкаюць, сьпеваў няма.

Натаўп зьнік. Толькі цэлая плошча ўкладзена ахвярамі рэволюцыі... Іх шэсьцьсот.

* * *

Вечар. Дзевятая гадзіна. Кватэра губарнатара. Званок. Лёкай адчыніў дзьверы. Увашоў закутаны ў дажджавы плашч высокі статны мужчына.

— Губернатор где?—запытаўся.

— У габінэце.

Мужчына вяртлява выпутаўся з плашча.

Лёкай пазнаў менскага поліцэймайстара Норава.

— Далажыце, што Нораў,—кінуў барадатаму лёкаю і сам сеў у гасьцінай.

— Войдите,—пачуўся грубы голас губарнатара.

— Я с докладом,—цокаючы шпорамі, вітаўся Нораў з Курловым.

— Казаки помогли. А революционное движение растет. Мои люди подсчитывали, толпа была—десятитысячная. Получил письмо о готовящемся на меня покушении, теперь в городе все спокойно. Что завтра будет—пока не знаю.

— Завтра?! — Стрелять! Революцию задушим... крамолу сотрем с лица Русской земли. Стрелять! Войска-же в Минске хватает!

— Задушим!—вырвалася ў губарнатара, аддалося рэхам па пакоі і патанула ў мяккай мэблі...

(*Працяг будзе*).

Іл. Барашка.

---

А. Звонак.

## Комсамольскі вечар.

Цёмны вечар паўзе з-за ваколіцы,
Цемнатою к сялу падкрадаецца,
А ў завульлі гурба комсамольская
Песьні звонкай ракой заліваецца...

Ў сьвітку шэранькую, ночкай тканаю,
Памаленьку палі апранаюцца,
А з палёў, што расою ўвабраныя,
Песьня рэхам ўтарыць-адгукаецца...

Зоркі з высі глядзяць—хітра міргаюць,
З цёмным вечарам, ой, як кахаюцца!..
А звон песьні нясецца ў даль імглістую,
Ў шапатлівых палёх разьлягаецца.

Тонуць далі ў імгле за ваколіцай,
З небам цёмная ноч абнімаецца,
А ў завульлі гурба комсамольская
Песьні звонкай ракой заліваецца...

. . . . . . . . . . . . . .

Эх, у вечар такі, ды з араваю,
Радасьць буйная плешча усплёскамі...
Вёскі-ж ўсе, саламяна-кудравыя,
Ой, ды любяць жыцьцё комсамольскае!

Ну дык, хлопцы, даёш песьню бравую!..
Хай-жа з намі жыцьцё усьміхаецца!..

. . . . . . . . . . . . . .

Ноч калышацца ценьмі кудравымі...
Радасьць песень у даль расплываецца..

---

Залётны Максім.

## Думкі аратага.

Ад зары я сягоньня на працы,
Зрэбным апрануты ўбраньнем,
За плугам хаджу па загонах—
Вітаю вясёлае раньне.

Блакітнымі жменямі кідае
Вышыня мне песьні салодкія,
Рухам сталёвым разломаны
Мінуўшчыны песьні гаротныя.

Сівога ўшчаміў я ў калёсы,
Па зялёнай дарожцы паскрыгаў
У той бок, дзе дрымотная вёска
Старым жыцьцём дзянькі цмыгае.

На начлег я адпраўлю Сівога,
Хай травы паскубе на даліне,
Хай паслухае песьні начлегу,
Дзе агні залатыя маліняць.

А заўтра дню новага бляскі
Як пойдуць на небе ў разгоны,
Пацягнемся зноў мы на працу,
Зярнятамі ўсыплем загоны.

Мы сьцежкі Комуны знойдзем,
Да лепшага жыцьця старонкі,
Аб гэтым мы марылі ў полі,
Дзе трактару чуем гамонкі.

# За комсамол.

I.

Паехаў Касьцюк у чырвоную армію цёмны, як і яго вёска. Бачыў ён у часы грамадзянскай вайны Чырвоную армію. Бедная яна была. Абдзёртая і галодная куча людзей так і засталася ў яго памяці. Але, прыехаўшы ў казарму, ён быў вельмі зьдзіўлены. Чырвонаармейцы—хлопцы, глянуць любата. Касьцюка сустрэлі вельмі ласкава, пачалі распытваць у яго, як жыве вёска. Касьцюк хутка пазнаёміўся з чырвонаармейцамі і стаў сьмела адказваць на ўсе запытаньні. Касьцюк жыве ў казарме.



Дудар Сымон Шыхавец—селянін в. Халхоліцы, Барысаўскае акр

Хутка ён прывык да новай працы, да новых заняткаў. Старанна ўзяўся за вучобу. Праз некаторы час Касьцюк штодня чытаў газэты і ведаў, дзе што робіцца. Чырвонаармейцы яго досыць палюбілі.

Вельмі спадабаўся Касьцюку комсамол, і ён хутка запісаўся ў яго шэрагі. Касьцюк—ужо сябра комсамолу.

Жывучы ў горадзе, Касьцюк не забыўся і пра сваю вёску.

П'янства, няпісьменнасьць, а разам з тым і беднасьць касьцюковай вёскі—не давалі яму супакою.

Задумаў Касьцюк організаваць у сваёй вёсцы комсамольскую ячэйку. Стаў ён часта пасылаць лісты вясковай моладзі—сваім таварышом. У лістох Касьцюк пісаў аб сваім жыцьці, а больш таго аб комсамоле.

Моладзь, атрымаўшы ліст, зьбіралася і грамадою чытала яго. Спачатку ня верыла, што Касьцюку добра жывецца, але потым усё больш і больш пераконвалася ў гэтым.

Касьцюк, праведаўшы праз лісты, што яго вясковыя таварышы вельмі зацікавіліся комсамолам, папрасіўся ў палку ў одпуск з мэтай організаваць дома ячэйку.

Камандзір палка яго адпусьціў.

II

Вось родная вёска. Вось і першая хата. Убачыўшы праз вакно Касьцюка,—свайго найлепшага таварыша,—куляю вылецеў на вуліцу Хведар—вясковы хлапец, сусед Касьцюка.

— Здароў, Касьцюк! Такі дачакаліся!

— Здароў! Што новага?—адказаў чырвонаармеец Касьцюк.

За Хведарам вышла й Тацяна—сястра Хведара, і ветліва, крыху саромліва, паздароўкалася з Касьцюком.

— Якая ты вялікая вырасла, прыгожая такая стала!—паціскаючы руку і гледзячы Тацяне ў вочы пагэройску гаварыў Касьцюк.

Хутка Касьцюк стаяў у крузе хлапцоў, дзяўчат і старых сялян. Пашла на розныя тэмы размова. Дзеці бегалі і спужана глядзелі на Касьцюкову вайсковую вопратку.

III.

На другі дзень Касьцюк пашоў у мястэчка да сакратара комсамольскай ячэйкі, каб расказаць аб тым, што моладзь яго вёскі жадае організаваць ячэйку.

Сакратар такую вестку прыняў вельмі радасна і прапанаваў Касьцюку прыйсьці з іншымі хлапцамі на сход іх ячэйкі, які адбудзецца ў нядзелю....

Касьцюк, Хведар, Тацяна і іншая моладзь—на сходзе местачковай комсамольскай ячэйкі.

Сьпярша разьбіралі пытаньні організацыйнага характару, а потым пытаньне аб організацыі новай комсамольскай ячэйкі ў вёсцы Зялёнае. Чырвонаармейцу-комсамольцу Касьцюку далі слова. Касьцюк гаварыў прыгожа й дзелавіта. Пасьля Касьцюка выказваліся іншыя яго таварышы.

Сход пастанавіў: „У хуткім часе пайсьці ўсёй ячэйцы ў вёску Зялёнае для організацыі там ячэйкі".

IV.

У быўшых панскіх пакоях, а цяпер у школе—сход. Хлапцоў, дзяўчат, дзяцей і сялян поўна школа. Прышлі і старыя бабы.

Местачковы комсамолец гаворыць аб комсамоле, аб вясковай моладзі.

— Каму што незразумела? Давайце пытаньні,—прагаварыў старшыня сходу.

— Пашлі вы адсюль к чортавай мацеры, татулькі мае!—моцна прамарматаў рыжы дзед.

— Дзяцей нашых папаскудзіць хочаце? Жылі бяз вас і будзем жыць далей... Касамолы знашліся!— дабавілі прысутныя бабы.

Актывістыя комсамольцы пачалі тлумачыць прысутным тую вялікую карысьць комсамолу, які ён дае сваёй вёсцы, і пераконваць няправільнасьць сялянскіх поглядаў.

Пасьля некаторых спрэчак галасаваньне зялёнаўскай моладзі і некаторых сялян паказала, што ячэйка неабходна.

Старшыня сходу,—Касьцюк,—абвясьціў запіс у сябры комсамолу...

Местачковыя комсамольцы далі кніжак, плян працы, і маладая ячэйка пачала працаваць.

Запісаліся ў ячэйку адны хлопцы, ды і то толькі тыя, у якіх ня было бацькоў, або якія ня слухаліся бацькоў.

Ня стрымаў настаўнік.

— Эх, дзед!—пачаў ён,—блудзіш ты. Мала такіх выпадкаў, каб багаты на беднай жаніўся. Багаты шукае багатай, а з беднаю й гаварыць ён ня хоча. Багаты хлапец—спэц насьмяяцца над беднаю дзяўчынкай і больш нічога. А вось калі мы,—казаў далей настаўнік,—згуртуемся ў адну організацыю ды будзем дапамагаць адзін другому, так і багатаму хвост прыцісьнем. Будзе шукаць ён тады нашай ласкі. Комсамол да гэтага йдзе.

Усе доўга маўчалі.

— Праўда гэта!—парушыў цішыню дзед, і пачаў гаварыць далей:— Вось збудаваны мост, а чаму



На пасёлак. Чэрвеньскі раён.

Ячэйкаю кіравалі Касьцюк і вясковы настаўнік.

Хутка Касьцюк паехаў зноў у Чырвоную армію, а ячэйкаю кіраваць стаў адзін настаўнік-комсамолец.

V.

Сход ячэйкі... Касьцюк учора прыслаў газэт, часопісаў і п'еску „Мікітаў лапаць“. На сходзе загаварылі аб спэктаклі.

— Што гэта за шпатакіль?—запытаўся рыжы дзед.

Яму растлумачылі.

— Каб наладзіць спэктакль—дзяўчаты патрэбны, а іх няма,—пачалі клапаціцца хлопцы.

— Чаму вы ня пускаеце да нас дзяўчат?—запыталіся хлапцы ў рыжага дзеда.

— На вячоркі,—пачаў дзед,—мы пасылаем дзяўчат таму, што туды прыходзяць багатыя хлапцы, можа каторы закахаецца ды замуж возьме, а вы што? Усе галякі.

ён збудаваны? А таму, што комсамольцы пашлі і папрацавалі над ім. Малайцы хлопцы! Пайду гнаць сваіх дачок у комсамол.

VI.

Далёка відаць агні з вакон школы. Там спэктакль. У школу грамадою валіла моладзь, а за імі й сяляне з жонкамі.

На сцэне надзяваліся і вуглямі хварбавалі сабе твары.

Зазьвінеў званок, і заслона з рабых падсьцілак паднялася кверху.

Прысутныя глядзелі і дзівіліся на комсамольцаў, якія былі то старыя, гарбатыя, то вельмі прыгожымі. А як на сцэну выскачыў Мікіта—усе клаліся ад сьмеху (Мікіту іграў хлапец Мікіта, што было вельмі цікава).

Спэктаклем моладзь вельмі зацікавілася. Былі чутны словы:

— Ня пойдзем больш на вячоркі, куды цікавей пабываць на комсамольскім вечары, на спэктаклі.

Пасьля спэктаклю комсамолец Мікіта абвясьціў запіс у сябры драмгуртка, які сёньня організаваўся.

Рыжы дзед падышоў да Мікіты і пачаў прасіць, каб яго залічылі сябром драмгуртка.

— Я,—кажа дзед,—хоць няпісьменны, але працаваць на сцэне вельмі жадаю.

Рыжага запісалі першым у сьпіс сяброў драмгуртка. Гледзячы на дзеда, запісалася шмат дзяўчат і хлапцоў.

VII.

У школе стукатня, шыпеньне пілы і рубанка, бадзёрыя гутаркі і сьмех.

Трое хлапцоў ходзяць па вёсцы, прадаюць білеты. Заходзяць у кожную хату.

— Купі білет, дзядзька! На спэктакль сёньня пойдзеш.

Дзядзька зморшчыў лоб і, чухаючы патыліцу, штось думае.

— Бяры, бяры, дзядзька! Не пашкадуеш. Сёньня будзе вельмі цікава.

— Ды сёньня будзе выступаць Яўхім „Рыжы",— дабавіў другі хлапец.

— „Рыжы" Яўхім!? Тады я пайду. А дзе вы грошы гэтыя дзенеце?

— Куды грошы? А вось куды. Мы хочам,— пачаў адзін хлапец,—збудаваць паказальны вучастак дзе можна-б было працаваць так, як кажа агроном. Хочам паказаць вам карысьць навукі...

— Добра. Дайце тры білеты! А я хацеў выпіць сёньня за гэтыя грошы, але добра, што вось падышлі вы.

Увечары зазванілі ў царкве, але сяляне вёскі Зялёнае, ня кажучы ўжо пра моладзь, не зьвярнулі на гэта патрэбнай увагі—пашлі на спэктакль.

Адзін комсамолец растлумачыў сялянам карысьць паказальнага поля, таго поля, на якое зьбіралі грошы.

Пачаўся спэктакль.

Рыжы дзед іграў вельмі добра...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз месяцы чатыры ў вёску зьвярнуўся і Касьцюк з Чырвонай арміі. Праца ажыла яшчэ больш. Сёньня ўся вясковая моладзь уступіла ў комсамол, і старыя, убачыўшы карысьць комсамолу, на справе дапамагаюць моладзі ў пабудове новага лепшага жыцьця й дабрабыту вёскі Зялёнай.

**Ул. Кавалёў.**

Віцебская акр., в. Касачы.

# ЛІПНЁВАЕ.

Сэрца цэпам застукала ў грудзі,
Закрынічыла кроўю па целе,
Калі я ў партызанскім атрадзе
Першы раз ўзяў адрэз ў рукі сьмела.

Заіскрыліся вочы пажарам,
Калі скокнула куля-лайдачка,
І улан-аф цэр, як зваліўся,
Як зрабіла яна яму банцік.

І пры гэтай жаданай ахвяры
Сваёй помсьце даў чорную глебу,
У думках я даў справаздачу,
Што людскую няволю скалечыў.

І, здавалася, рады сасонкі,
Што ля трупа ў радочак пасталі,
Не адзін праз яго ня раз плакаў,
Не адна страха дымам лятала.

Гэты дзень мне у памяць уеўся,
Гэта крок мой быў першы даволі,
Буду помніць яго я да сьмерці—
Гэты дзень завіхрыста-ліпнёвы.

**С. Шушкевіч.**



Піонэры ў лягеры.

# ПРА МІНУЛАЕ.

## Помста.

*(Успамін).*

Кучка сялян, сабраўшыся каля Марцінавай хаты, вяла спрэчкі паміж сабой.

— Цішэй ты, Гаўрыла, ары, бо вунь ідзе з качарэжкай панскі падганяйла, мусіць, зноў пагоне... каб з яго...

— Эх, брат! Гоніць, дык і слухай, а чуць трошкі, дык і паедзе па сьпіне так, як ня езьдзіў ты, брат, ніколі верхам. Маўчы ды ўсё. Цягні, пакуль цягне, а як прыстане, дык зьлез ды пашоў, няхай чорт лысы карыстаецца нашай цемнатой.

— Што ты, Гаўрыла, плявузгаеш, пачні ўсім маўчаць, дык што з гэтага выйдзе, яны, брат, табе і ў.....

— Што будзе, то будзе, але сёньня не паеду, калі толькі загадае. Я, брат, чуў, што блізка вунь... нашы... чырвоныя. Дамся ў кусты дый гатова. А там—поле шырокае для мяне, Язэпа.

— Дзень добры!

— А як ты думаў, пане падганяйла, што ён сёньня дрэнны?— адзываўся Язэп.

— Добры то добры, але не для цябе, Язэп. Вось табе сёньня трэба жаўнера завезьці, куды ён табе скажа, вось ён для цябе і добры, ха-ха-ха!

— Гэ, не для мяне, для „ягомасьця“ мусіць, ды гэта ў звычаі для паноў—добры, а калі ён для нас мужыкоў-лапатнікаў быў добры? Паглядзім, брат, далей, каму будзе добры, а каму дрэнны. Мінецца кату масьленіца.

— Паплявузгай, брат, яшчэ трохі, можа атрымаеш гасьцінца ад пана жаўнера. Хутка запрагай і каб зараз-жа быў каля маёй „брамы“.

А сам завярнуўся і так паважна пашлёгаў дамоў.

Язэп усьміхнуўся, падміргнуў Базылю—панскаму падганяйлу— ды кажа:

— Чакай, брат, каб ты ня ўстаў, колькі цябе павязу, брыду гэту; раз помста, дык помста. Калі гэта было, каб пан з мужыкамі зладзіў? Век ворагамі былі, век і застанемся. Не паеду.

* * *

Жаўнеру не сядзелася на адным месцы. Яго тонкі нюх чуў, адкуль ідзе на выручку сваіх братоў Чырвоная армія, якая ня гладзе па галоўцы паноў і панскіх падлізьнікаў.

— Староста, староста, дзе хурманка?—вылупіўшыся, паставіўшы вочы на Базыля, ва ўвесь дух крычаў жаўнер.—Я цябе ў турме згнаю, падавай хутчэй хурманку!

— Пане жаўнеру, я загадаў Язэпу, але той нешта сьмяецца, паказваючы губы, ды ўсё. Што я, кажа, польскі парабак, як то Базыль. Ужо гадзіньнік якраз прабіў цэлую гадзіну, як я яму загадаў, а яго ўсё як няма, дык і няма; можа, панок, падойдзем к яму.

Жаўнер праз хвілін дзесяць быў з Базылём на двары ў Язэпа і бяз літасьці хрысьціў удоўж і ўпоперак жонку і сына Язэпавых, апошняга паваліў на зямлю і пачаў лупіць пад бакі нагамі. Не пераставаў і панскі падганяйла ад жаўнера з сваёй крывой дубовай качарэжкай. Стогн і енк разьліваўся па ўсёй вёсцы П-цы.

Часаліся рукі, рвалася сэрца ад болю ў Язэпа, які стаяў з сваёй кабылкай у кустох і чуў крывавыя распраўы з яго сям'ёй.—Папомняць яны Язэпа.

* * *

Цёплая расіца, цёплая ночка апавівалі старое цела Язэпа. Ён—змагар, ён—паўстанец. Вузенькай мяжой паміж залацістага жыта, крадучыся з маладняцкім настроем, падходзіў ён ужо к Базылёваму гнязду, а потым к панскім палацам, дзе было паўнютка панскай брыды. Агонь, ахапіўшы два гнязды, весела разьліваўся і пераносіўся з аднэй будыніны на другую. Ні адзін чалавек ня кінуўся тушыць панскіх гнёзд.

Раз помста, дык помста.

А на бруку па шырокім шляху, як гром, грымеў панскі абоз з нарабованым сялянскім дабрабытам. У паветры насіўся пыл, апошні садзіўся на жывыя расьліны і ўядаўся ім так у цела, што нельга было ад яго збавіцца.

Пішчаць сьвіньні, каторых ловяць жаўнеры, плачуць людзі, усё гэта зьліваецца ў адно цэлае. Ня так дорага кожнаму ўся гаспадарка, што яе рабуюць, кожны цікавіцца як-бы найхутчэй збавіцца ад гэтай злыдні, якая сядзіць над каркам. Чуць толькі выкацілася сонца з-за густога хвойніку, як ужо панская чэлядзь, астаўляючы нарабаванае, уцякала без аглядкі, за якой ішла наша Чырвоная армія, а наперадзе ехаў на сваёй кабылцы Язэп.

Дзень адзінаццатага ліпеня будзе моцна помніцца кожнаму, хто адчуў і спрабаваў панскай ласкі.

У. Г-вік.

## У той час.

Кожны дзень арышты, вобыскі, катаваньні.

Уся надзея была на Ўсход.

Выратуе ён—усё добра, ня выратуе—яшчэ шмат часу прыходзіцца пакутаваць, цярпець...

Наступілі трывожныя дні ліпеня.

Загуло, загрымела на Ўсходзе.

Яшчэ лепш сталі сачыць паліцыянты за падазронымі.

Пачаліся патрохі паказвацца хурманкі з панскаю маемасьцю—значыць усё з месца зрушана.

Пацягнуліся сялянскія хурманкі з манаткамі ў нетры лясныя, пагналі ў сьлед жывёлу сьценкамі, дарожкамі. А гром на Усходзе ўсё мацней і мацней пачынаў пагрымліваць, наводзячы перапалох у белых, даючы радасьць сялянам.

Навальніца прыбліжалася! Паказаліся абозы сапраўдныя, войска ўзброенае.

Наступілі апошнія дні панаваньня паноў. Гэта быў дзень 12-га ліпеня. У той час, як у Менску разьвяваліся чырвоныя сьцягі, як пачыналі будаваць новае жыцьцё, дык у нас яшчэ панаваў панскі бізун, дажываючы апошнія дні свайго салодкага панаваньня. Днём гарэлі лясы, на якія ніхто не звărочваў увагі.

Ноччу то сям, то там віднеліся заравы—гэта грэліся паны, палячы станцыі й масты.

Наступіла 13-га ліпеня.

Ціха ў вёсцы, на вуліцы пуста.

Толькі апошнія жаўнеры, якія паасталіся ад сваіх часьцей, пляліся, даганяючы іх.

Праз нейкі час з-за гары паказаліся колёны чырвонай пехаты, якія роўнымі шэрагамі пад гукі песень уваходзілі ў вёску.

Кончыліся дні панаваньня чужынцаў.

Пачалося будавацца новае жыцьцё.

В-вы.

В. Прусінава.



# ПА ЯЧЭЙКАХ ЛЕНІНСКАГА КОМСАМОЛУ.

## Маладая, але моцная.

*Сіроцінскі раён, Віцебшчына.*

Палцэўская комсамольская ячэйка організавана нядаўна, але як трэба ўзялася за працу. Організаваны гурткі: політычны, драматычны і гурток па вывучэньню беларускае мовы.

Гурткамі ахоплена ня толькі комсамолія, але і беспартыйная моладзь. Усе комсамольцы зьяўляюцца сябрамі МОПР і таварыства „Прэч няпісьменнасьць".

Не забыліся і пра газэты. Самі комсамольцы выпісваюць газэты і вярбуюць новых падпісчыкаў. Гатовіцца да выхаду і свая насьценная газэта.

У складзе ячэйкі ўсе бедныкі. Адзін сябра ячэйкі выбран у сельсавет, адзін у праўленьне спажывецкага таварыства.

Культурная праца вядзецца: ставяцца спэктаклі, даклады, розныя гульні.

Ячэйка ўсё больш і больш разгортвая сваю працу і заваёўвае пашану ад сялян.

**Сіроцінскі.**

## Ячэйка не працуе.

*Путчынская яч., Койданаўскі раён, Меншчына.*

Путчынская ячэйка мае ў сабе 15 комсамольцаў (13 хлапцоў і 2 дзяўчыны).

Сакратаром ячэйкі—комсамолка Дутка. Яна ня хоча добра працаваць. Толькі тое й ведае, што ходзіць па гульбішчах. Часта ня прыдзе нават і на сход ячэйкі. Мы—комсамольцы—сабярэмся на сход і ні з чым пойдзем да хаты.

Дысцыпліны комсамольскай у ячэйцы зусім няма. Ленінскае выхаваньне адсутнічае.

Праца сярод дзяўчат не праводзіцца.

Пашаны ад сялянскай моладзі не карыстаемся.

**У. Казлоўскі.**

## Жыцьцё і праца нашай ячэйкі.

*Прусінаўская яч., Узьдзенскі р., Меншчына.*

Наша ячэйка яшчэ маладая. Яна організавалася ў ліпені 1924 г. Складаецца яч. з вясковых хлапцоў і дзяўчат.

Толькі ячэйка пачала наладжваць працу, як яе спаткала вялікае няшчасьце. У лістападзе мінулага году гіне ад кулі бандыта адзін з найлепшых комсамольцаў—сакратар ячэйкі т. Каралецкі. Праца прыціхла...

Над ячэйкаю пасьля забойства сакратара бярэ шэфства ячэйка пры Менскіх агульна-адукацыйных курсах. Праца крыху палепшылася. Шэф выпісаў газэт, адчыніў хату-чытальню, даў бібліотэчку з 350 кніжак.

Зараз культасьветная праца праводзіцца слабавата. Газэты чытаем вельмі рэдка, а політычных кніжак зусім ня чытаем.

1 і 15 чэрвеня ячэйка наладжвала нядзельнікі, на якіх рамантавалі клюб.

**А—р.**

## Большасьць комсамольцаў—на грамадзкай працы.

*Беларуцкая яч., Меншчына.*

Наша ячэйка існуе з 1922 г. Цяпер у ёй налічваецца 26 сяброў, з іх толькі 3 дзяўчыны, што вельмі не пажадана.

Амаль што кожны комсамолец зьяўляецца сябрам МОПР і ТППФ. Кожны комсамолец—сябра коопэратыву. Чатыры комсамольцы працуюць у сельсавеце, шэсьць у комітэце ўзаемадапамогі, 1 комсамолка працуе ў коопэратыве.

Усе іншыя комсамольцы працуюць у розных комісіях, рэдкалегіях і інш.

**Працаўнік.**

## З аднае—дзьве.

*Койданаўская яч., Меншчына.*

Койданаўская яч. вырасла ў 80 комсамольцаў. Пры такім ліку сяброў працаваць было нельга. Бюро задумала разьдзяліць яе на дзьве ячэйкі. Райком гэта дазволіў. Цяпер у Койданаве маюцца 2 комсамольскія ячэйкі.

**Адашчык.**

## Наша масавая праца.

*Сухарукаўская яч., Полаччына.*

Наша ячэйка організавалася ў студзені гэтага году. Цяпер налічвае ў сваім складзе 11 чалавек.

У сельсавеце ячэйка ў трох месяцах збудавала сцэны. Час ад часу ставіць там спэктаклі.

Сабралі крыху грошай і зьбіраемся ў сваёй вёсцы адчыніць хату-чытальню.

**Тацяна.**

## Не адстаем.

*Боркавіцкая яч., Полаччына.*

За апошні час праца ячэйкі значна паднялася. Разгортваецца праца сярод дзяўчат і батрацтва. Пры ячэйцы організаваны два атрады піонэраў.

Праводзяцца сходы і конфэрэнцыі беспартыйнай моладзі. Двох комсамольцаў выбралі ў сельсавет.

З настаўніцтвам трымаем моцную сувязь. Настаўнікі працуюць у нашых гуртках і дапамагаюць нам рознымі парадамі.

**Пятрок С.**

## Газэта, дзе ты?

*Шацкая яч., Меншчына.*

Пры Шацкай ячэйцы выходзіла вусна-сьветавая газэта „Комсамольскі будзільнік"

Хлопцы ёю надта цікавіліся і шмат у яе пісалі.

Але адно бяда, што пра „Комсамольскі будзільнік" ужо цэлых 2 месяцы ні слуху, ні духу.

— Ці жыва яна?—часта пытаюць комсамольцы.

Газэта, дзе ты?

**Комсамолец Ч. В.**



# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА.

## Дасьпяваньне і ўборка збожжа.

У нас, на Беларусі, рэдкае лета не перашкаджаюць уборцы збожжа дажджы і дзеля гэтага мы павінны кожнай хвілінкай добрай пагоды карыстацца ўмела, інакш у нас збожжа або парасьце ў снапох, ці, напрыклад, ячмень пачарнее, а авёс пажоўкне.

Аднак, якая-б ні была пагода ў часе жніва, мы не павінны з уборкай пазьніцца й адкладваць яе назаўтра. Як толькі збожжа дасьпее, трэба як мага хутчэй распачынаць жніво.

Найлепшым часам жніва збожжа будзе тады, калі яно яшчэ ня цалкам цьвёрдае, але й не малочнае, ці інакш, як кажуць, яно павінна быць у васковым стане дасьпеласьці. Калі мы такое зерня папрабуем перагнуць на ногці, то яно пераломіцца.

У мокрыя гады збожжа дасьпявае вельмі позна.

Нашы расьліны дасьпяваюць больш-менш у такім парадку: жыта, пшаніца, ячмень і авёс.

Жыта, зжатае ў пагодны час, можна адразу вязаць у снапы; толькі з раніцы ці пасьля дажджу, калі салома і каласы мокрыя, пакідаюць на жменях, пакуль не абсохне, але перад вечарам абавязкова вяжуць у снапы і ставяць у бабкі.

Пшаніца больш падлягае прарастаньню ў мокрыя гады. Даволі аднаго цёплага дажджу на пшаніцу, лежачую на жменях, як праз 3-4 дні пачне прарастаць. Дзеля гэтага трэба жаць у добрую пагоду і зараз-жа вязаць у снапы і састаўляць у дзесяткі, калі яно не настолькі сухое, каб яго можна было адразу вазіць да дому.

Ячмень яравы асабліва баіцца непагоды пры ўборцы. Ужо пасьля аднаго дажджу траціць сьветлы колер, жоўкне і чарнее, праз што памяншаецца яго вартасьць. Таксама на пракосах вельмі хутка прарастае. Пасьля скосу ячмень пакідаюць на пракосах ня больш таго часу, які патрэбен для таго, каб прасохла канюшына, (прыблізна 2 дні), якая часта падсяваецца ў ячмень, затым вяжам яго ў снапы перавясламі з жытняй саломы і складаем у паўкопкі каласамі ў сярэдзіну. Калі дождж перашкаджае ўборцы, то ў пагодныя прамежкі належыць пракосы перавярнуць на другі бок або толькі падняць каласы, каб яны не ляжалі на зямлі, ад чаго зерняты прарастаюць. Ячмень павінен добра высахнуць і тады толькі можна яго вазіць да гумна.

Авёс, калі лішняе прастаіць на пні, вельмі асыпаецца. Значыцца, яго мы павінны хутка жаць. Як толькі пабялеюць мяцёлкі на большай частцы, гэта знак, што авёс ужо пара жаць. Аўсу дождж менш шкодзіць, але ўсё-ж праз нейкі час зерняты цямнеюць.

У мокры год устанаўляць зьвязаныя снапы ў доўгія падвойныя шэрагі. У гумнах збожжа належыць складаць так, каб ніводзін сноп не ляжаў каласамі на зямлі ці пры сьцяне. Да сьцяны збожжа павінна прылягаць камлямі, што яго і забясьпечвае ад мышэй, каторыя найбольш жуюць збожжа ад сьцяны і ля зямлі.

Перад звозкай збожжа да гумна трэба яго старанна ачысьціць ад старой адсырэўшай саломы, агледзець добра гліняны ток і калі

дзе-небудзь заўважыш мышыныя норы, то павінен іх засыпаць бітым шклом, адначасна палажыўшы ў гліняных трубках атручанага аўсу ці пшаніцы.

На ток ці зямлю наслаць сухога гальля з поўаршына таўшчынёю і на яго ўжо класьці збожжа.

Таксама трэба памятаць аб сваячасным застрахаваньні сабранага збожжа ад агню, найлепш перад звозкай да гумна, каб мы былі ўпэўнены, што наша праца ня пойдзе з дымам без карысьці.

Калі здарылася, што мы зьвязьлі да гумна ня зусім сухое збожжа, то яго трэба як найхутчэй абмалаціць, а зерняты тонка рассыпаць па падлозе ў сьвірне, каб яно высахла.

**Агр. Ул. Даведчык.**



Сельска-гаспадарчая выстаўка ў мяст. Смалявічах, Менскае акругі.

# НАВУКА І ТЭХНІКА.

### Замена воч.

У Вэне профэсар Блат браў вока аднае жывёліны і ўстаўляў яго другой. Рабіліся вопыты над рыбамі, трусамі і курамі. Вынікі наступныя: з 400 выпадкаў перамены воч у рыбы—удачнымі былі 26 выпадкаў, у трусоў з 80—толькі 2, а з курамі вопыты засталіся бяз вынікаў.

Гэтыя досьледы зацікавілі ўвесь мэдыцынскі сьвет. Гэта можа стаць пачаткам да разьвязаньня пытаньня аб замене хворага вока ў чалавека здаровым, якое магчыма будзе браць у жывёлін.

### Будзем будаваць мэталёвыя самалёты.

Цэнтральны аэро-гідродынамічны інстытут у Маскве правёў вялікую работу ў галіне організацыі на тэрыторыі СССР мэталёвага самалётабудаўніцтва.

Разам з Кальчугінскім заводам на Урале і заводам „Чырвоны Выбаржац“ у Ленінградзе інстытут наладзіў шырокую вытворчасьць мэталю кальчуг—алюміню, які, дзякуючы сваёй моцы і лёгкасьці, зьяўляецца галоўным матэрыялам мэталёвых самалётаў.

### Здыманьне з аэроплянаў.

У мінулым годзе ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах рабіліся досьледы па падліку плошчы, занятай хлапком пры дапамозе здымкаў, якія рабіліся з аэроплянаў.

Досьледы далі добрыя вынікі.

### Зварот Амундсэна.

Нарвэскі падарожнік Амундсэн, які спрабаваў зрабіць палёт на паўночны полюс, надрукаваў справаздачу аб паездцы.

Вылецеў ён з некаторымі сваімі сябрамі 24 мая з вострава Шпыцбэргэна. За 8 гадзін праляцеў 1000 вёрст. Ня бачачы ніякіх прымет сушы, падарожнікі вымушаны былі спусьціцца на Ледавітым акіяне.

Зьмерылі яны глыбіню акіяну, якая раўняецца бяз малага чатыром вярстам. Такая глыбіня зьяўляецца фактам таго, што ў гэтым раёне няма сушы.

Тады падарожнікі павярнулі на ўсход, каб дасьледаваць невядомыя да гэтага часу мясцовасьці. Машыны замерзьлі ў лёдзе. На працягу 24 дзён падарожнікі знаходзіліся ў вельмі дрэнных умовах. Пасьля цяжкай і доўгай працы ўдалося вызваліць адзін аэроплян, і 15 чэрвеня падарожнікі накіраваліся назад, узяўшы з сабою толькі неабходныя рэчы, як бэнзін і яду.

Пасьля васьмігадзіннага пералёту падарожнікі спусьціліся на Шпыцбэргэне.

### Цікавае навуковае дасьледаваньне.

Нямецкі профэсар Банэві дасьледаваў, што ўзор ліній на скуры пальцаў ня толькі пастаянны ў таго ці іншага чалавека, але што ён перадаецца па насьледзтву.

Дзякуючы гэтаму можна даведацца шляхам адпечаткі пальцам бацьку дзіцяці, калі гэта, вядома, патрэбна.

# ГОРАД.

## У МАЛАДЫХ ДРУКАРОЎ.

### Менская профтэхшкола друкароў.

Што кніжкі, газэты, плякаты робяцца ў друкарні, гэта, пэўна, ведаюць усе. А як яны робяцца—ведае ня кожны.

Перш за ўсё яны складаюцца з літар. Тут ад літар (а літары сьвінцовыя) ў паветры носіцца сьвінцовы пыл. Рабочыя, якія працуюць у гэтым аддзяленьні, вымушаны дыхаць паветрам папалам з пылам.

Гэты пыл надта шкадліва адбіваецца на здароўі рабочых. Ад яго вельмі лёгка атрымаць сухоты.

Друкарскай справе навучыцца ня лёгка, а затым організоўваюць профтэхшколы друкароў, дзе вучыцца моцная маладая зьмена старым рабочым.

Аб аднэй з іх „Беларускай профшколе друкароў“—пагутарым з чытачамі нашай часопісі.

Вучыцца ў школе 70 чалавек. З іх 25 дзяўчат. Палова вучняў комсамольцы. Жывуць вучні як самі з сабою, таксама і з майстрамі дружна. У рабоце і ў вучэньні кожны стараецца дапамагчы свайму таварышу.



У друкарні. Машыннае аддзяленьне.

Усёю працаю школы кіруе вучнёўскі комітэт.

Асабліва ўрачыста сустракае моладзь выхад чарговага № насьцен. газэты „Профшкольскі адбітак“, якой ужо вышла 15 нумароў.

Усяго ў школе 4 аддзяленьні: выкладное, машыннае, літографскае і пераплётнае. У выкладным аддзяленьні набіраюць кніжку. Далей яна йдзе ў машыннае аддзяленьне, дзе машынаю друкуецца на паперу.

У літографскім аддзяленьні друкуюць вокладку, плякаты, карты, а ў пераплётным кніжка пераплятаецца і йдзе на продаж.

Працуем мы $5^1/_2$ гадзін. Пасьля працы ідзем на заняткі, якія цягнуцца 3-4 гадзіны. Пры школе маецца агульнае памяшканьне.

Комсамольская ячэйка профшколы трымае шэфства над Талькаўскай і Боркаўскай ячэйкамі (Меншчына). Сувязь з імі вызначаецца ў тым, што адзін з сяброў шэфскае комісіі раз у тыдзень, ці больш таго, выяжджае да падшэфных. Мяняецца з імі пратаколамі ячэйкі і дапамагае ў працы ячэйкі.

Наша ячэйка выпісвае для падшэфных ячэек газэты, часопісі і іншую літаратуру. У сваю чаргу яны прыяжджаюць да нас паглядзець, як мы працуем і жывем.

У выніку сувязі ў іх адчынілася хата-чытальня, а пры ячэйцы організаваўся піонэратрад.

Друкуем мы больш за ўсё беларускія выданьні і кніжкі „Сялянскай бібліотэкі“ і „Маладняка“.

Па друку мы не адстаем ад рабочых друкарань.

Ня дарма наша школа зьяўляецца самаю лепшаю на Беларусі.

**Н. Бярозка.**




# Уцёк з турмы.*)

*П'еса ў 3 актах.*

Перарабіў **Міх. Калента.**

АКТ ДРУГІ.

У лесе. Дзееца праз 2 гады пасьля першага акту.

Зьява І.

Ганулядна.

Г а н у л я *(трымае на руках дзіця і забаўляе яго)*. Эх, Сідорка, Сідорка, ня бачылі мы шчасьця з табою і, мабыць, не пабачым ніколі... Увесь сьвет, здаецца, не для нас, людзі ваража і з ядавітаю ўхмылкаю праводзяць нас вачыма пры стрэчы... Усе чураюцца нас, ненавідзяць, толькі родная мамачка нам спачувае. Але-ж і яе імкнуцца спакусіць нашы ворагі; хочуць угаварыць, каб выдала мяне за Зьмітра і яна амаль што згаджаецца, але толькі няволіць мяне ня будзе. А я ў гэтым выпадку й супроць мацярынае волі магу пайсьці... Маё дарагое дзіцятка, Сідорка мой дарагі *(цалуе)*. Сонца сьвеціць так яскрава, але-ж ніводзін прамень яго не даходзіць да нас, не сагрэе нас, не заспакоіць наша сэрца... Наша сонейка закацілася два гады таму назад і, мабыць, ня ўзыйдзе ніколі... *(Хоча плакаць)*. Закавалі ў кайданы рукі і ногі, з усіх бакоў акружылі з бліскучымі шаблямі і павялі ў вастрог майго Сьцяпана, як душагуба, як забойцу... так, Сьцяпан—забойца, душагуб... ён забіў насьмерць гэтага крывапійцу, людаеда Куртатага... А хто-ж навёў яго на гэту справу крывавую, як ня Зьміцер, якога Сьцяпан лічыў за першага друга... і гэты друг справадзіў яго на катаргу... Цяпер ён хоча яшчэ, каб я была яго жонкаю. На чужым горы, на чужых сьлёзах ён хоча будаваць сваё шчасьце. „Не, ня ўзыйдзе рунь на камені“.—Гэтыя словы я добра помню і буду іх выпаўняць. О, Сьцяпан, Сьцяпан! Чаму ты ня ўзяў мяне з сабою?... Нашто ты загадаў мне заставацца паміж „сваіх“ людзей? Дзе яны? Няма іх... я адзінокая з сваім горам... *(Глядзіць на дзіця)*. Сьпіць... ён нічога яшчэ не разумее, клопату ніякага ня ведае. Сьпі, даражэнькі. *(Нейкі час сядзіць засмучоная, потым ціха пачынае пяяць „калыханку“ бяз слоў, потым замаўкае і аб чымсь-та моцна думае)*.

Зьява II.

Гануля і Зьміцер.

З ь м і ц е р *(уваходзіць, ціха)*. Добры дзень, Гануля!

Г а н у л я *(спалохаўшыся)*. А!..

З ь м і ц е р. Чаго ты так спалохалася?

Г а н у л я. Я думала, што лясун які...

З ь м і ц е р. Здаецца я лясуну не з радні.

Г а н у л я. Можа сват...

З ь м і ц е р. І ня сват.

Г а н у л я. А, дык неўзабаве станеш сватам.

З ь м і ц е р. Да лясуна, бачыш, сватацца неяк нязручна, а вось да цябе, дык ахвота разьбірае... *(Падыходзіць)*.

Г а н у л я. Ідзі ў балота, там знойдзеш можа да каго пасватацца.

З ь м і ц е р. Хіба-ж такім, як я тут, сярод людзей, і месца няма?

Г а н у л я. На асіну цябе або ў вір—там табе месца.

З ь м і ц е р. Ну і за што ты сярдуеш на мяне Ніяк не разумею...

Г а н у л я. Пазыч у дурня розуму.

З ь м і ц е р. Ты думаеш, што я прызваў Сьцяпана да катаргі, быццам я назнарок зьвёў яго з Куртатым, ну...

Г а н у л я. Маўчы.

З ь м і ц е р. Я ведаю, што людзі набрахалі на мяне, запэўнілі цябе, што я затаіў штось на судзе, не хацеў сьведчыць за Сьцяпана, дык ня вер гэтаму: Сьцяпан заўсёды быў маім лепшым сябрам. Ты-ж сама бачыла, як ён разьвітаўся са мною.

Г а н у л я *(глядзіць на дзіця. Маўчыць)*.

З ь м і ц е р. За паўтара годы ты магла ўпэўніцца, што сьлязьмі Сьцяпана ня вернеш, а жыць табе аднэй немагчыма, цяжка. *(Нясьмела)*. Я хачу сватацца да цябе.

Г а н у л я. Ідзі сабе, адкуль прышоў, бо мне цяжка з табою.

З ь м і ц е р. Гэта тваё астатняе слова?

Г а н у л я. Не, гэта не астатняе. Астатняе я скажу табе пры людзях.

З ь м і ц е р. Я-ж ніякае віны ня чую за сабою, ня ведаю...

Г а н у л я. Ня чуеш, ня ведаеш... *(Устае)*. Я прыпомню табе калі-небудзь. Ты заплаціш за мае сьлёзы крывавыя, за маё гора няўцешнае... Ты брыдкі мне з даўных часоў. Я ненавіджу цябе, я гідую нават стаяць побач з табою... Гэта ты прызавёў Сьцяпана да вастрогу. Крывапійца ты... душагуб. *(Выходзіць)*.

З ь м і ц е р *(у сьлед)*. Глядзі, дзяўчына, гэтае абразы я не пацярплю...

*) Глядзі „Малады Араты“ № 5.

Зьява III.

Зьміцер адзін.

Зьміцер (*паглядае ў сьлед Ганулі, потым садзіцца і аб чымсь та доўга думае*). Ух, гадзюка. (*Устае*). Першы раз у сваім жыцьці спатыкаю такую дзяўчыну. Сэрца ў яе, як камень. Раз парашыла і болей нават думаць аб тым ня хоча. Але-ж і чаму яна мне так спадабалася? Чым магла прываражыць да сябе? Чаму яна мяне ненавідзіць? (*Выцягвае рукі ў бок, у які пашла Гануля*). Гануля, сонца маё, жыцьцё маё, чаго ты ўцякаеш ад мяне? Чаго баішся? За каго ты мяне лічыш? Так, так. (*Ідзе назад*). Я забойца, я душагуб. Людзі, людзі, памыляецеся вы, калі завеце забойцам і душагубам Сьцяпана. Я прызваў яго да забойства, я згубіў яго душу і нават не адну душу, а дзьве... так, дзьве. Дзьве маладыя істоты, якія знашлі сваё шчасьце, моцна пакахалі адзін другога і думалі правесьці ў гэтым сардэчным каханьні ўвесь свой век. Я разарваў, я разьбіў гэтае шчасьце, разьбіў назаўсёды... І якая мне нагарода за гэта? Сьлёзы і гора маладое дзяўчыны, праклёны і агульная пагарда—вось мне нагарода... Так, Сьцяпан у вастрозе, а яна тут сьлязьмі абмывае сваё гора. Уся ўцеха яе—гэта дзіця, гэта Сідорка, якога пакінуў ёй Сьцяпан. Яно кожны раз напамінае Ганулі аб сваім айцу, яно не дае ёй забыць яго хоць на хвіліну, так, яно стаіць мне на дарозе. Гэтая нікчэмная істота, пісклянё, і яна сьмее мне пярэчыць... Ух-х, прыдушыць-бы яго, каб не стаяла перад вачыма. (*Садзіцца. Сьціскае моцна рукамі галаву і доўга сядзіць, потым ціха пяе*):

Маці мяне на сьвет радзіла,
Спытацца для чаго...
Каб мучыцца свой век, цярпець праклёны.
І шчасьця не пабачыць,
Шчасьця мне свайго...

Ха, ха, ха! Я хачу яшчэ сваё шчасьце пабачыць... Даволі й таго, што я разьбіваю шчасьце другіх, ды яшчэ сваіх блізкіх таварышоў, якія так верылі, так верылі, а я... (*Глядзіць у лес*). Во гэтая здань Сьцяпана зноў зьявілася перада мною... Во, во, ідзе сюды, хоча мяне забіць... з сякераю ў руках... проста на мяне.. (*Цяжка дыхае, становіцца на калені*). Браточку, Сьцяпан, прабач мяне, я... я вiноўнік твайго няшчасьця, Сьцяпан, стой... ня йдзі... (*Падае. Дзесь далёка чуваць сьпеў „Чачотачка“. Сьпеў хутка прыбліжаецца, а потым на сцэне*).

Зьява IV.

Максім, хлапцы і дзяўчаты пяюць „Чачотачку“. Зьміцер ляжыць.

1-я дзяўч. О, а гэта хто ляжыць? (*Прыглядаецца*). Зьміцер. Сястрыцы, глянце, куды ён забраўся?..

Максім (*падышоўшы да Зьмітра*). Што, хіба ў ночы табе і часу не хапае, каб выспацца дома? Яшчэ лясун схопіць. (*У бок: хоць такога і варта, ніхто-б ня плакаў, апрача дурное Марысі*). Чуеш, уставай, даволі ўжо.

Зьміцер (*прахапіўся*). А, што, я й сам ня ведаю, што са мною здарылася. Нешта галава закружылася, пазелянела ў ваччу, ой... як галаву ломіць. (*Лажыцца зноў*).

Максім. Ды ўставай, а то зараз дзяўчаты як возьмуцца за цябе, дык нідзе ня дзенешся, і няжывога падымуць.

1-я дзяўч. Падымаць--ня вельмі, каб каго другога, дык яшчэ можа, а то гэтую задаву...

2-я дзяўч. Аб яго й рук нават ня варта пэцкаць.

1-ы хлапец. На асіну-б зьвера такога.

2-я дзяўч. І ёсьць-жа на сьвеце людзі, якія гатовы свайго найлепшага друга ў зямлю жывым закапаць.

2-і хлапец. Дык дзіва, што ёсьць. Вунь-жа. (*Паказвае на Зьмітра*).

Зьміцер (*устае*). Годзі вам ужо тут барабаніць. Распусьцілі гэтыя свае шлёпаўкі, як сьвіныя панчохі, ды не даюць адпачыць чалавеку.

1-я дзяўч. Чалавеку, хэ, падумаеш. Ня кожнага можна лічыць чалавекам.

Зьміцер (*злосна*). Дык што-ж я не чалавек, патвойму, га? хто я, скаціна?! (*Падыходзіць да яе*).

1-ы хлапец. Гэй, пастой, не разыходзься так, ня дома.

Зьміцер. Нягодная, не хачу толькі рук пэцкаць, а то б паказаў табе чалавека.

2-я дзяўч. І што за людзі, ня можа й хвіліны пабыць, каб ня біцца з кім-небудзь або ня прызводзіць другога да бойкі.

2-і хлапец. О, Зьміцер на такія рэчы майстар!

Зьміцер. Сьціхні, гавару, бо ты яшчэ ня ведаеш, які я майстар, дык я зараз пакажу, паскуда!

Максім. Пакінь лепш, Зьміцер, бувяніць тут. Калі хочаш адпачыць, дык ідзі вунь трохі ўбок, ляж там і ляжы, а мы пагуляць сюды прышлі.

Зьміцер. Цьфу, паганае зельле. (*Ідзе ў бок і лажыцца*).

1-ы хлапец. А ці чулі вы, браткі, што надоечы праз нашу вёску вялі катаржнікаў. Іх, ведаеце, пераганялі з аднаго месца на другое...

Усе. Ну, што, кажы!

1-ы хлапец. Мая маці якраз ішла тады з сенажаці і бачыла, як яны, небарачкі, чуць валаклі на нагах тоўстыя жалезныя кайданы. А якія-ж змарнеўшыя, абадраныя. Абрасьлі, як авечкі, што нельга нават адрозьніць, дзе ў іх нос, а дзе вочы і вушы. І колькі яны ні прасілі гарадавых, каб дазволілі зайсьці на вёску і папрасіць хоць кавалачак хлеба, дык, думаеце, дазволілі? Не, нават і прылегчы адпачыць ня пусьцілі.

Усе. А-а-а! Во дзе зьдзек!

1-ы хлапец. А ведаеце, як іх многа было: ну, пэўна, чалавек семдзесят. Мабыць былі там і тутэйшыя, бо гаворка падобна да нашае.

Максім. Вось так, небарака, і Сьцяпан недзе цягаецца, галадае. Можа й забыў ужо на сваю Ганулю і на ўсіх нас... Бедная дзяўчына, сохне, марнее і і ўсё любуецца на свайго Сідорку... І чаго, браткі, наш брат толькі не перанясе на сваім жыцьці: і гора, і беднасьць, і зьдзек, і вастрог, і што толькі хочаш. А як глядзяць на мужыка нашы ўладары? Узяць для прыкладу і нашага старасту—Кузьму. Ці даўно ён зьмяніў сваю шэрую сьвітку на чорны крамны сурдут, а цяпер з нашым братам ён нават і гаварыць ня хоча. Зойдзеш у воласьць да яго, дык перш трэба зьняць шапку, пакланіцца да зямлі, бо ў яго-ж мэдаль на шыі. Раней мой бацька з ім разам коні пасьвіў, а цяпер гэты самы Кузьма з намі й сустракацца ня хоча. Ён дружыць з папом, урад-

нікам, пісарам. Скажаш слова ня так—у халодную ды яшчэ й лазы папрабуеш. Наш брат ня бачыў вольнага жыцьця і ці будзе яно калі для яго. Вось так і Сьцяпан. Хацеў абараніць сваю сястру і другіх бедакоў ад зьдзеку таго людаеда, жывадзёра Куртатага, дык папаўся ў вастрог. Што-ж, Куртаты амаль-што ня першы багатыр у воласьці, а ў каго багацьце—у таго і ўлада. Да яго і ураднік часта заходзіў й станавы. А як залетась п'яныя стражнікі прыбілі насьмерць Нічыпаравага дзяцюка Васіля, дык ім нічога.

1-шы хлапец. Эх, ды што казаць. Стараста, поп, ураднік і іншыя ўсе сядзяць на нашым карку і нас паганяюць.

2-гі хлапец. Усё гэта праўда, але досыць аб ім гаварыць, і так сумна на сэрцы ўвесь час, давайце трохі разгонім гэты смутак, павесялімся, бо ці нам разважаць аб нашай долі мужыцкай, для гэтага ёсьць чыны. Давайце лепш якую польку, ці што. Ну-тка, Рыгор, урэж. (*Іграе на гармоніку. Перш скача адна пара, а потым усе, акрамя Максіма. Даніла ідзе ў лес*).

Некаторыя хлапцы. У-ух, праняло, аж сарочка мокрая стала. Ух! (*Адыходзяць у бок. Патроху скокі спыняюцца*).

1-ы хлапец (*адзін*). Гэй, гэй, зязюленька рана.

Другі хлапец. А дзе-ж Зьміцер ужо зьбег? Хадзем, браткі, знойдзем яго, ды хоць нададзем добра. (*Усе пяюць „зязюленьку“ і йдуць. Некалькі хвілін сцэна пустая*).

Зьява V-я.

Зьміцер (*бяжыць з лесу і крычыць*). Ой, ой, што я бачыў! Ці то Сьцяпан, ці то здань яго... Вылязае з-пад карча, працягвае да мяне рукі, кліча да сябе... А які-ж ён страшны... (*З гушчару лесу паўзе Сьцяпан, увесь абадраны, рукі й ногі ў крыві, аброс вялікімі валасамі, рукою кліча да сябе Зьмітра*).

Зьміцер (*убачыўшы Сьцяпана, увесь дрыжыць, ляскае зубамі*). Дык гэта ты, Сьцяпан, няўжо?..

Сьцяпан (*вельмі ціха, аглядаючыся*). Так, так, я, той самы Сьцяпан, які два гады таму назад быў сасланы на катаргу. Я, Сьцяпан, забойца, катаржнік, пракляты вёскаю з турэмным кляймом... Але-ж чаго ты ўцякаеш ад мяне? Чаго ты так баішся? Зьміцер, браток, хадзі бліжэй да мяне, а то я не магу болей хадзіць. Глянь мне ў вочы. Ты-ж быў калісь маім другам?.. (*Заглядае Зьмітру ў вочы*). Ну, кажы, кажы, што чуваць на вёсцы, што кажуць пра мяне, як жыве мая дарагая Ганулял, што з ёю, чаму няма яе сярод гэтых дзяўчат, якія ходзяць па лесе і пяюць? Ну, кажы, кажы, чаго маўчыш? Нешта ты нясьмела на мяне пазіраеш. (*Цісьне яму руку*).

Зьміцер (*нясьмела*). Не, бачыш, я ніяк ня мог паверыць, што гэта ты, а цяпер я пэвен. Скажы, Сьцяпан (*хітра аглядаецца ў бакі*), якім ты чынам папаў сюды, няўжо ўцёк?..

Сьцяпан (*ціха*). Так, так, уцёк. Але аб гэтым пасьля... (*Цісьне руку*). Як маецца Ганулял, што яна цяпер, бедная, робіць?

Зьміцер. Тое, што і раней. Болей часу праводзіць з дзіцём...

Сьцяпан. Што? Ага, так, так... Мой сын, сын, які ня ведае свайго бацькі... Сын катаржніка, душагуба.. Ах, як-бы мне хацелася пабачыць іх... два гады... Як доўгімі здаваліся мне яны... Слухай, браце, ты можаш гэта зрабіць, ты можаш і ты павінен, бо ты-ж... мой друг быў калісь. Мне трэба пабачыць яе тут, тут маю любую Ганулю, калі не пабачу цяпер, дык і ніколі. Зьміцер, споўні маю можа астатнюю просьбу: прывядзі яе сюды—толькі так, каб ніхто ня бачыў.

Зьміцер. Добра. Чакай тут. Толькі схавайся дзе-небудзь, вунь там хіба за кустом, але-ж далёка не адыходзь, бо мы зараз.

Сьцяпан. Толькі хутчэй, браце, не марудзь, а то нас усюды шукаюць, бо не адзін-жа я ўцёк...

Зьміцер. Зараз, зараз. Толькі ты не сядзі на камені, а то ня зусім бясьпечна. (*Ідзе аглядаючыся ў бок Сьцяпана*).

Зьява VI-я.

Сьцяпан (*адзін у бок Зьмітра*). Гм, ён перасьцерагае мяне, што тут ня зусім бясьпечна. Нашоўся калі „друг“. Што ты думаў тады, калі, карыстаючыся маёю нястрыманасьцю і вялікаю абразаю, ты ўцягнуў мяне на забойства? Ух, дурань ты... (*Адышоўшы*). Жыве, як у клетцы, ня бачыць, што наўкола дзеецца. Народ гне сьпіны пад бізунамі, цярпіць і ня ведае, за што ён ахвяраваў сябе на вечную пакорнасьць жандарам. Але царская турма добра вучыць, як трэба разумець пакорнасьць цару, службу за веру, цара і айчыну. Там з забойцы робіцца абаронец правоў народу. Гм, я забойца, забіў Куртатага, людаеда. Але гэтым я вызваліў з яго тлустых пальцаў з доўгімі кіпцюрамі дзесяткі гаротных сялян. Праўда, яны не разумеюць гэтага, лічаць мяне катаржнікам. Ды ад іх і чакаць другога нельга. Што-ж, усе ад бога, паіхнему, прыстаў, ураднік, багач—усе божыя памазаньнікі. А калі так, дык і паддаюцца, каб іх мазалі ўвесь век... І мажуць .. (*Хоча прысесьці, але недалёка ў лесе чуваць шорах*). Вось нехта йдзе. Няўжо Ганулял так хутка?... Не, нешта многа. (*Хаваецца ў глыб лесу*). І дакуль я буду хавацца ад людзей...

Зьява VII-я.

З лесу выходзяць па 2-3 хлапцы і дзяўчаты, аглядаюцца ў бакі.

1-я дзяўч. Ух, як я напалохалася. Такія страшэнныя людзі. І парадашна-ж іх там было. Мо' чалавек з дзесяць.

1-ы хлапец. Эх, вельмі палахлівая. Калі пабачыла двух або трох, дык ужо дзесяць... Але вось цікава, браткі, адкуль яны маглі ўзяцца? Адзін-жа, здаецца, папоўз сюды, але ня відаць нідзе.

2-я дзяўч. Ведаеце, што гэта мабыць з тых вязьняў, пра якіх раней Рыгор казаў, няўжо ўцяклі?..

1-я дзяўчына. Прапала наша жыцьцё. Вось калі кража распачнецца.

2-і хлапец. Хутчэй да старасты ды ўрадніка трэба, заявіць, а то ня будзе спакою ад гэтых катаржнікаў. Хутчэй.

Усе. Праўда, праўда, хутчэй заявіць, няхай паловяць. (*Бягуць*).

Зьява VIII-я.

Сьцяпан (*выглядзе з-за карча*). Эх... жыць ня будзе за гэтымі катаржнікамі, да старасты, да ўрадніка, няхай паловяць... (*Уздыхае*). Так, і паловяць. У іх сіла, у іх улада... (*Прыслухваецца*). Вось, зноў нехта йдзе, зноў трэба хавацца... (*Хаваецца*).

Зьява IX-я.

Зьміцер, Ганулял, а потым і Сьцяпан.

Зьміцер (*вядзе за руку Ганулю*). Вось тут пачакай, я зараз паклічу.

Ганул я. Зьміцер, што лжэш мне, ты яшчэ болей хочаш напіцца маёй крыві.

Зьміцер. Маўчы, дурная, пабачыш зараз свайго ненагляднага, а ён дапраўды цяпер ненагляднЫ. (*Кашляе тры разы*). Аднак запрапасьціўся недзе. (*Ганулял дрыжыць*). А, вунь... (*З-за кустоў вылазіць Сьцяпан. Ганулял пазнае і кідаецца да яго. Плача, цалуе. Зьміцер ідзе проч. Сьцяпан і Ганулял выходзяць на сярэдзіну сцэны. Шчыльна прытуліліся адзін да другога і стаяць*).

Сьцяпан. Ну, сядзем, сядзем, а то мне стаяць яшчэ вельмі цяжка. Ну, сядай. (*Садзяцца на траву, Сьцяпан трымае яе руку*). Ну, кажы, кажы, дарагая, што чуваць, як маці, што кажуць пра мяне?

Ганул я. Мой дарагі, мала што людзі будуць казаць, ды хто іх слухае. Што мне людзі, ты мне даражэй за ўсё на сьвеце, мой дарагі, мой любы Сьцяпан. (*Цалуе і глядзіць яму ў вочы*). Але ты неспакоен чагосьці? Скажы, як папаў ты сюды, няўжо ўцёк?..

Сьцяпан. Так, уцёк. Два дні таму назад цэлы эшалон... нас перавозілі на другую работу. Тут недзе чыгунка пракладаецца. Вялі якраз праз гэты лес. А мне-ж тут кожны корч вядомы, кожная дарожка. І вось я з двума таварышамі ў час адпачынку ціхенька адпаўзьлі далей у лес, перабраліся праз рэчку, камянямі пазьбівалі адзін другому кайданы і пачалі туляцца па лесе і хавацца ад людзей. Усякі шолах травы і былінкі прымушаў нас бегчы далей, валяцца па канавах, балотах. Прыходзілася дрыжэць ад холаду, галадаць, зьбіраць каласкі і толькі імі жывіцца.

Ганул я. Ой, мой бедны! Я-ж прынесла з сабою сала і хлеба дый маўчу. На, перакусі, потым прынясу яшчэ.

Сьцяпан (*бярэ і есьць*). Дзякую, вельмі дзякую, мая дарагая. (*Цалуе*).

Ганул я (*нейкі час глядзіць на Сьцяпана*). А як-жа табе жылося там?

Сьцяпан. Так жылося—не жадаю нікому так жыць. Працуеш, як вол, то на чыгунцы, то зямлю дзе-небудзь капаеш, а за сьпіною стаіць жандар з бізуном, і калі трохі захочаш адпачыць, дык заараз-жа і пацягне па плячох. Усю сьпіну спаласавалі, каты. Даюць у дзень па куску хлеба і крупніку памыяў трохі і вось цягай ногі. Але ўсё-такі і спазнаў я там шмат чаго новага. Вось гэтыя, якія ўцяклі разам са мною, былі сасланы за тое, што ўчынілі забастоўку на нейкім заводзе, хацелі, значыць, палепшыць сваё жыцьцё працоўнае, ну, а ім кайданы на рукі і туды на дзесяць год.

Ганул я. Еж, еж, дарагі, ты-ж галодны.

Сьцяпан. Але-ж і людзі добрыя яны. Я падружыўся з імі з першых дзён і неяк так прыходзілася, што і працавалі заўсёды разам. Кожную вольную хвіліну яны гаварылі мне аб правох народу. Яны тлумачылі, што заводы і фабрыкі павінны належыць толькі таму, хто на іх працуе, так і зямля. Цяпер я пэвен у гэтым. Скажы, Ганулял, якое права меў, напрыклад, Куртаты на зямлю, калі абрабляюць яе нашы вясковыя хлапцы, і ім плаціў ён за гэта глупства, а сам толькі езьдзіў і наглядаў. Чым ён лепшы за нас? Чаму кожны з нас павінен абліваца потам на сваім вузенькім загончыку, калі Куртаты такія кавалкі зямлі пускаў пад межы?..

Ганул я. Ну, дык ён-жа мае, ён багаты.

Сьцяпан. А хто яму даў гэтае багацьце, хто яму нагараваў? Мы нагаравалі, вёска, дык вёска павінна і ўладаваць усім. Трэба вырваць з рук гэтае „іхняе" багацьце, а такіх Куртатых шмат сядзіць на нашым карку. Вось вазьмі Максіма. Ён працуе больш за ўсіх, а што ён мае? Нічога. А чаму? А таму, што ня ведае сабе цану, ня ведае таго, што ўсё павінна належыць усім працоўным, а неасобным *пэрсонам*. Ведаеш што, Ганулял?..

Ганул я. Што?

Сьцяпан. Мае таварышы прапанавалі разам з імі ісьці далей ад гэтае мясцовасьці, бо тут нас будуць шукаць, і там гаварыць народу праўду. Трэба разбудзіць яго, трэба сказаць яму, што ўсё наша, працоўных, а паноў на нашым карку быць ня можа.

Ганул я. Як-жа гэта без паноў?..

Сьцяпан. А што-ж, мы самі сабе будзем панамі, а дармаедаў на нашу шыю ня трэба. У маіх таварышоў ёсьць і кніжкі, у якіх таксама пра гэта пішацца, але толькі я хачу, каб і ты была заўсёды са мною, мая ты кветка, а ты як?..

Ганул я. Усё роўна мне жыцьця тут няма, я магу, але вось як з Сідоркам?

Сьцяпан. Так, Сідорка. Я яго яшчэ ня бачыў... мой сын, сын катаржніка... Нічога, яго мы возьмем з сабою, няхай прывыкае да вольнага жыцьця, да прастору. Як-небудзь перакідаемся. Знойдуцца людзі, што і нам будуць спачуваць. Ну дык што, Ганулял, ты згодна? Яж так шчыра цябе кахаю. Ты будзеш мне падарожніца, так?..

Ганул я. Мілы, дарагі, цябе я болей не пакіну. Будзем разам пераносіць дні шчасьця і гора. Даволі зьдзекаў людзкіх перанесла.

Сьцяпан. Так, так, дарагая, даволі. (*Цалуе*). Наша будучына там, наперадзе. Мы возьмем на сябе цяжкую задачу — забітаму народу расказаць праўду, растлумачыць яму, што ён азначае. Ну, дык даволі, а то нас могуць тут яшчэ злавіць, пэўна недзе шукаюць. Ідзі ўжо, а заўтра, пад вечар, бяры Сідорку і прыходзь сюды. Вазьмі харчы, калі ёсьць, толькі пашпарт не забудзь. А адгэтуль разам з маімі таварышамі туды, у сьвет, у цёмны замучаны народ. Ну, дык бывай. Толькі вельмі не марудзь.

Ганул я. Бывай, бывай, мой даражэнькі. Як толькі сонейка пачне заходзіць, я буду тут. Ну... (*Цалуюцца і разыходзяцца. Сцэна пустая*).

### Зьява Х-я.

Стараста, ураднік, стражнікі і сяляне з вілкамі. Стараста, ураднік і стражнікі—падвыпіўшы.

Ураднік (*аглядаючы паляну*). Я думаю, что отсюда нам нужно начать.

1-ы страж. Ваше благародье. Я в этом деле практикант и поэтому разрешите Вам доложить, что мы этих самых то разбойников теперь не поймаем.

Ураднік. А это почему?

1-ы страж. А потому, Ваше благородье, что они теперь напугавшись этих самых девок-то, а как, Ваше благородье, напуганная ворона и куста боится.

Ураднік (*сярдзіта*). Такая ворона, как ты.

1-ы страж. Виноват Ваш благородье.

Стараста (*ураднiку*). Мне таксама здаецца, што стражнік праўду кажа. Калі ён адважыўся

ісьці ў лес, значыць ён ведае як і схавацца. Вось давайце лепш прысядзем адпачыць ды закусім трохі, усё лепш будзе шалацца па лесе.

Ураднік. Да, погода хорошая, просто прелесть. Знаете, в тысяча девятьсот...

2-і страж (*перабівае*). Совершенно верно, Ваше благородье, в этакую погоду только в лесу полежать, да...

Ураднік (*перабівае*). Тебя не спрашивают. (*Да старасты*). А, пожалуй, и верно. Они от нас не уйдут, кажется. Свои обязанности перед батюшкой царем в отношении этих преступников мы выполним полностью.

Усе страж. Так тошно, Ваше благородье, выполним.

Сяляне. І мы ў даўгу не застанемся.

Ураднік. Ну, так располагайтесь, ребята, отдохнем, а потом и за дело. (*Адыходзіць у бок ад стражнікаў і садзіцца. Да яго падыходзіць староста. Ціха*). А может мы, Кузьма Егорыч, так сказать, для смелости, понемножку.

Стараста. А ўжо-ж, калі адпачыць, дык трэба і падкрапіцца. (*Садзіцца і цягне з кішэні пляшку і закуску. Стражнікі і сяляне садзяцца ў другім кутку. Стражнікі цягнуць з кішэняў пляшкі, а сяляне з торбаў хлеб і сала. Усе п'юць і ядуць*).

1-ы стражнік (*падняўшы ўверх пляшку, глядзіць на яе*). И что тут, кажется, особенного, вода и только, а вот без нея никак нельзя (*п'е*). Один раз глотнеш, а уж совсем другим человеком становишся.

1-ы селянін. Мой бацька, нябожчык, каб пэтае самае вады ня піў, дык і палавіны-б веку не вражыў. Бывала так забярэ яго, небараку, што вось, гось, здаецца, душу богу аддасьць, але як пацягне трошкі, дык супакоіцца і засьне. Але-ж ад яе, мабыць, ён і на той сьвет пашоў. Гэта як было вясельле вунь у Пятра Дзямідавага, дык ён набраўся там, ну, жонцы дасталося і гаршкі паляцелі з паліцы, а потым схапіў нож з комінку і ўсадзіў сабе ў грудзі. Кроўю абліўся ўвесь і душа пакінула цела. (*Хрысьціцца*).

1-ы страж. Чего там душа. Пил не умеючы, от тебе и душа (*п'е*). Все надо в меру, а тогда и душа и тело останется на месте.

Стараста (*устаў, да селяніна*). А ўжо-ж, Мікалай, твой бацька на ўсё быў гатоў. (*Да ўрадніка*). Гэта раз як падпіў трохі, дык як пачаў ламаць платы і мерацьц каламі вокны, дык ажно ляск па ўсёй вёсцы разьлягаўся. Стражнікі, вядома, хацелі спытаць яго, а ён, доўга не чакаўшы, як заехаў аднаму па сьпіне, дык той, небарака, і зваліўся, як куль. Чуць вылечылі, вось.

Ураднік (*пяе „Спаси господи, люди твое“. За ім усе. П'яныя галасы. Потым бярэ з зямлі шапку*). Ну, а теперь за работу. Выловить всех и передушить, как собак, кто вздумал беспокоить и причинить вред общему благу, и то, чего доброго, посягнут (*да старасты*) на наши особы.

Староста. А што-ж вы думаеце, браткі? Каб ня было мяне і гаспадзіна ўрадніка, а потым (*паказвае на стражнікаў*) і гэтых верных служак, дык быў-бы вам спакой ад гэтых лясных брадзяг? Яны-б жыцьця вам не далі, а ў лес паехаць ніхто-б і не адважыўся.

1-ы селянін (*да старасты*). Дык ты-ж наш гаспадар, ты-ж галава, а іх благародзьдзе заўсёды змогуць навесьці парадак. Ня дарма мая дачка Матруна, кажа, што калі йдуць іх благародзьдзе па вёсцы, дык ня толькі людзі, а й куры ў падваротню хаваюцца. Усялякая твар так паважае і баіцца іх, во. (*Да ўрадніка*). Толькі вось, ваша благародзьдзе, чалавек вы ўжо не малады, заслугі перад начальствам не малыя, ды чын—го-о! Але ўсё-ж такі аднаго ў вас не хапае, а мая Матруна сумуе, кажа, што пасьля таго вы й на вочы ёй чамусьці ня хочаце паказацца.

Ураднік. Гм, гм... (*да стражнікаў*). Вы берите по одному мужыку и идите в лес. Шарьте всюду. Во что бы то ни стало изловить. Я с Кузьмой Егоричем тоже идем сейчас.

Стражнікі. Слушаемся, Ваше благородье. Будут все переловлены и доставлены Вашему благородию. (*Стражнікі і сяляне п'яныя разыходзяцца ў розныя бакі*).

Ураднік. Пойдем и мы, Кузьма Егорыч, надо присмотреть. (*Ідуць*). Какая прекрасная погода... Эх, так и хочется произнести эти замечательные слова: „Я и ты... я и ты, мы оба великие люди“... (*Ідуць у лес*).

Заслона.

# „МАЛАДЫ АРАТЫ“

## адказвае на запытаньні вясковай моладзі.

ЗАПЫТАНЬНЕ. Ці можна пісаць у „Маладым Араты“ на абодвух старонках ліста?

**М. Лубок.**

АДКАЗ. Бачыш, тэхнічныя ўмовы патрабуюць, каб нашы юнлоры пісалі толькі на адным баку ліста, але калі хлопец ня мае шмат паперы, дык можна пісаць і на абодвух баках.

ЗАПЫТАНЬНЕ. Ці ёсьць у рэдакцыі на продаж вышаўшыя раней нумары „Мал. Ар.“. Калі ёсьць, дык як іх можна купіць?

[illegible]к.

Няма. „Мал. Ар“. друкуецца ў такім ліку, колькі ёсьць падпісчыкаў.

Трэба старацца загадзя выпісваць сваю часопіс „М. Ар.“ Гэтым ты складзеш сваю маленькую бібліотэчку.

ЗАПЫТАНЬНЕ. Што такое эспэранто?

АДКАЗ. Гэта міжнародная мова працоўных. Ведаючы яе, мы будзем мець магчымасьць гаварыць з народамі другіх дзяржаў так, як гаворым мы паміж сабою.

ЗАПЫТАНЬНЕ. Як можна паступіць вясковаму комсамольцу на Рабфак?

**Максіменка.**

АДКАЗ. Усе месцы на рабфак разьмеркаваны паміж організацыямі і акругамі. Большасьць з іх пала на комсамол.

Усе акружныя комітэты комсамолу маюць права паслаць абмяжованы лік комсамольцаў для паступленьня на рабфак. Вось праз свае акружныя комітэты трэба і старацца папасьці ў тую ці іншую школу.

# Адгадай.

Пад рэдакцыяй А. Круталевіча.

### Задачкі дзядзькі Міхалкі.

### № 23.

СМАК
ЛАТА
ДЫЛЯ
МАК
ГАРА
БОТЫ.

Адкінуць па 2 літары ад кожнага слова, каб астаўшыеся літары далі назву аднаго белар. выданьня.

### № 24.

Дадаць патрэбныя літары, заместа рысак, каб можна было прачытаць 6 слоў, а зьверху ўніз прозьвішча выдатнага нашага песьняра і назву яго твору.

— АНА —
С— РД —Т
— ЛУ —
З— ВЯЗ —К
—УКУЛ—
— РЖ —

### № 25.

(Магічны квадрат).

Дадзеныя літары расстаўце ў клетках квадрата так, каб, чытаючы зьлева направа і зьверху ўніз, можна было атрымаць 5 слоў, якія азначаюць: 1 косьць; 2 задача; 3 частка абутку; 4 агародн. расьліна; 5 трава.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| А | А | А | А | А |
| А | А | А | Б | Б |
| Б | Б | Д | К | К |
| О | Р | Р | Р | Р |
| С | С | У | У | Э |

### № 26.

Імёны якіх вучоных і правадыроў чалавецтва ёсьць у гэтых выразах:

1. Камар Ксюйку укусіў за нос.
2. Беднаму Паўле ні ноччу, ні днём спакою няма.

### № 27.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | А | | А | | Б | |
| В | В | Г | Е | Е | Ж | І |
| | І | | Й | | К | |
| К | К | Л | Л | С | Т | Т |
| | Ў | | Ц | | М | |

Пераставіць літары ў клетках фігуры так каб можна было прачытаць (зьлева направа і зьверху ўніз) 5 слоў, азначаючых: 1 і 2 гарады БССР; 3 дзяржава ў Азіі; 4 павятовы горад БССР; 5 чалавек строгага, стрыманага жыцьця.

## Паштовая скрынка.

**Найдовічу Я.** (Хутарская яч.).

Прысланыя табою вершы: „Бягунец“ і „Комсамолец“ слабыя. Да друку не падыходзяць. Пісаць ня кідай, бо здольнасьць маеш. Працуй над сабою. Чытай творы другіх хлапцоў.

**Рыгору Нядоля**—апавяданьне „Алеся“ зьмесьцім у чарговых нумарох часопісі. Пішы.

**А. Вясковаму**—апавяд. „Страшнае здарэньне“—зьмесьцім.

**А. Савічу**—прышлі твой адрас.

**Кавалёву**—апавяданьне „За комсамол“ зьмясьцілі ў гэтым нумары. Вершы слабыя. Пішы лепш прозай. Апавяданьне „Выкурылі“—атрымана.

**М. Красоўскаму**—прысланыя табою частушкі: „Наша вёска Астраўкі“... слабыя. Да друку не падыходзяць.

**Мік. Гаёўскаму**—хоць ты і просіш зьмясьціць твой верш „Тэхнікумец“, але рэдакцыя ня мае ніякай магчымасьці. Вось пабач сам і параўнай з другімі:

Родны край. Роднае поле,
Ня гукай мяне у глыбню сваю.
У тэхнікум я пашоў наўмысьля,
Каб пазнаць ўсю таемнасьць тваю.

Звычайная проза. Мілагучнасьць адсутнічае. Пішы лепш прозай.

**Казлоўскі В.** (Шацак), **Анісава Антаніна** (Любонічы), **Бразгоўка В. Ф.** (Пухавічы), **Кавалёў Уладзімер** (Дабрамысьлянскі с. с.), **Рыгор Жлобіч** (Бабы) – Рэдакцыя вам выпісала за кошт ганарару на ліпень і жнівень месяц часопісь сял. мол. „Маладыя Араты“.

Рэдактары: { А. Самахвалаў.
Іл. Барашка.

1-я дзярж. друк. Зак. № 3612—(1500). Галоўлітбел № 10958.

# Ліст да нашых дапішчыкаў.

У рэдакцыі „М. А.“ атрымліваецца шмат допісаў ад юнкораў і селькораў. Аднак ня ўсе допісы, якія атрымліваюцца рэдакцыяй, можна надрукаваць у часопісі.

Самая галоўная ўмова пры выдрукаваньні допісу: трэба каб допіс быў цікавым. Цікавым не таму, хто пісаў яго, а тым, хто будзе чытаць яго. Пра гэта запамятываюць, часта нашы дапішчыкі запамятываюць, што часопісь нашу чытае каля трох тысяч чытачоў, і што рэдакцыя перш, чымсь зьмясьціць той ці іншы допіс, ставіць перад сабою пытаньне: ці зацікавіць гэты допіс хоць-бы палову чытачоў часопісі?

Вельмі часта допісы нашымі дапішчыкамі пішуцца „наогул“, гэта значыць, што вось у аднэй вёсцы адбыўся сход сялянскай моладзі, выбраны ў прэзыдыум такія асобы, заслуханы вось такія даклады, сход закончыўся беларускай марсэльезай, а дакладчык у канцы прамовы сказаў: Няхай жыве сусьветная рэволюцыя!

Вось гэта вам прыклад допісу „наогул“. А спрабуем бліжэй да справы падыйсьці. Пачнем з пачатку. Рэдакцыя атрымлівае дваццаць допісаў і дзесяць з іх адзін да аднаго падобныя. А чаму? Таму, што ў вёсцы А, вёсцы Б. В. і г. д. адбыліся сходы моладзі, на якіх зроблены аднальковыя даклады, і ўсе дзесяць дапішчыкаў напісалі пра тое самае. Розьніца толькі ў назове мясцовасьцяй. *Допісы падобны адзін да аднаго.* Альбо яшчэ прыклад. Рэдакцыя ў № 4 „М.А.“ зьвярнулася з просьбай прыслаць успаміны аб польскай окупацыі і вызваленьні Беларусі. І што-ж? Большасьць допісаў паходзяць адзін на другі, дзякуючы таму, што кожны з дапішчыкаў пісаў „наогул“ аб паляках, а пра тыя зьдзекі, катаваньні сялян, партызанах *іхняй вёскі*, пра ўціск у абозе *свайго-ж бацькі ці брата*—напісаць забыўся. І большасьць успамінаў рэдакцыя зьмясьціць ня здолела. *Пісаць „наогул“ нельга таму, што гэта няцікава для чытача.*

— А як-жа трэба пісаць?—пытаюцца ў рэдакцыі некаторыя з дапішчыкаў.

Адкажам.

Прыкладам, праводзіцца „дзень комсамольскага друку“. Тут трэба пісаць: ці шмат комсамольцаў вашай вёскі выпісвае і чытае газэты і часопісі, як вы іх чытаеце, ці ўтворан у вас газэтны гурток, яго праца, якую насьценную газэту выдае ваш сельсавет, ці значны лік моладзі прымае ў газэце ўдзел, твой погляд на далейшае пашырэньне газэт, паляпшэньне спосабаў чытаньня часопісі, выданьне насьценнай газэты і шмат іншага. *Так пабудаваныя допісы па кожнаму сьвяту, здарэньню і інш. ужо аднальковымі ня будуць.*

Адным чынам, ад дапішчыкаў мы чакаем, каб яны пісалі пра тое, што і як робіцца ў вёсцы, ячэйцы, сельсавеце. Ці добра, ці дрэнна наладжана праца. З чаго відны дасягненьні, посьпехі, і якія хібы, памылкі, і як ад іх збавіцца.

Калі хлопцы здолеюць навучыцца пісаць пра справу, пра працу, не абходзячы ні благога ні добрага, допісы стануць цікавымі для чытача і будуць зьмяшчацца ў часопісі.

Усё выказанае вышэй не адносіцца да літаратурнага матар'ялу—апавяданьняў, вершаў, абразкоў п'ес. Тут ужо адказвае талент ці здольнасьць пішучага. Але рэдакцыя з свайго боку радзіць: перш, чымся пісаць апавяданьне, верш, ці што іншае, запытайся сам у сябе і падумай: а ці будзе зьмест яго цікавым для другіх? *Старайся апавяданьню даць цікавы зьмест, а вершу і зьмест і тое, што патрабуецца ад вершаў,—калі ня музыку, дык мілагучнасьць, рытміку.*

Не заўсёды першая спроба пісаньня ў часопісь ці газэту бывае ўдачлівая.

Не зьмясьцілі допісу—хлопец кідае пісаць. Нічога падобнага быць не павінна. Спачатку аўтары не заўсёды могуць выкласьці на паперу проста і зразумела сваю думку. *Толькі праз пісаньне ў часопісь ці газэту рэгулярна, дапішчыкі здолеюць навучыцца правільна выкладаць свае думкі на паперы.*

У далейшым рэдакцыя будзе старацца, дапамагаючы сваім дапішчыкам парадамі праз лісты і артыкулы ў часопісі.

**Рэдакцыя.**

---

# ЗЬМЕСТ.

„ПАДПІСВАЙЦЕСЯ“

— і —

ЧЫТАЙЦЕ

двухтыднёвую часопісь сялянскай моладзі

# „МАЛАДЫ АРАТЫ“



**Умовы падпіскі—з дасылкаю да хаты:**

на 1 месяц 15 кап.
на 3 месяцы 45 кап.
на 6 месяцаў 90 кап.



**Падпіска прымаецца** ва ўсіх паштова-тэлеграфных аддзяленьнях, у аддзяленьнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, а гэтак сама непасрэдна ў аддзеле распаўсюджаньня Газэтнага сэктару Белдзяржвыдату (Менск, Савецкая, 63).

**Адрас рэдакцыі:** Менск, Комсамольская, 25, тэлефон № 2—94.



## ОРГАН

Цэнтральнага Комітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб **політыцы.** Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—дае парады сялянскай моладзі, у **каго вывучыцца**, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—вядзе барацьбу за **новую вёску**, змагаецца з усімі дрэннымі бакамі жыцьця вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—для сялянскае моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаныя з працаю вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.